*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі**

# БЮЛЕТЭНЬ

## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПАСЕЎНАЙ КАМІСІІ

**№ 10** 28 мая **№ 10**

МЕНСК 1933

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ
Цэнтральнай Пасеўнай Камісіі

№ 10
28 мая
1933 г.

# Аб ходзе сяўбы па МТС

## Пастанова ЦК і СНК БССР ад 11 мая 1933 г.

Даныя аб ходзе сяўбы паказваюць, што МТС Беларусі, ня гледзячы на іх лепшую падрыхтаванасьць да сяўбы ў гэтым годзе, на значнае ўзбраеньне іх новымі сродкамі вытворчасьці і ўмацаваньне кадрамі, ня гледзячы на стварэньне палітаддзелаў, дагэтуль яшчэ не зрабілася сапраўднымі арганізатарамі калгаснай вытворчасьці, ня сталі яшчэ вядучым зьвяном у справе бальшавіцкай арганізацыі сяўбы гэтай вясны.

ЦК і СНК лічаць, што такое становішча зьяўляецца простым рэзультатам ганебнай работай кіраўніцтва МТС— дырэктароў і начпалітаддзелаў—па арганізацыі працы як саміх МТС (скарыстаньне і расстаноўка трактараў, людзей, кантроль за работай і яе якасьцю), так і абслугоўваемых імі калгасаў, а таксама рэзультатам адсутнасьці канкрэтнай дапамогі МТС з боку раённых партыйных арганізацый.

ЦК КП)б)Б і СНК БССР абавязваюць дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС у бліжэйшыя дзень-два прыняць усе меры да стварэньня карэннага пералому ў ходзе работы МТС. Павінны быць дасягнуты сапраўды бальшавіцкія адносіны да работы як з боку кіруючага, так і ўсяго складу работнікаў МТС.

Кіраўніцтва МТС і РК КП(б)Б павінны забясьпечыць:

1. Выхад МТС на работу з расьсьветам, раней усіх вакольных калгасаў і аднаасобнікаў.

2. Разгарнуць сапраўды бальшавіцкую барацьбу з усякай расхлябанасьцю, недысцыплінаванымі адносінамі як да самой работы па сяўбе, так і да трактара, караючы з усёй жорсткасьцю кожнага, хто папрабуе дэзарганізаваць работу МТС.

3. За сваечасовую дастаўку гаручага, змазачнага і іншых матар'ялаў на поле павінны пэрсанальна адказваць спэцыяльна вылучаныя работнікі МТС.

За перарасход гаручага павінен пэрсанальна адказваць трактарыст і загадчык вытворчага вучастку.

4. За паломку трактара пэрсанальна адказвае трактарыст і мэханік і асабліва сурова прыцягваецца да адказнасьці калі трактар папсаван у выніку няўважлівых, злачынна-нядбайных да яго адносін.

ЦК і СНК патрабуюць, каб райкомы РВК і РКК не стаялі ў баку ад работы МТС, а сваёй актыўнай, канкрэтнай дапамогай забясьпечылі-б вядучую ролю МТС у сяўбе.

ЦК і СНК адзначаюць, што начальнікі палітаддзелаў МТС да сёнешняга дня, хоць і за кароткі тэрмін сваёй работы, не праявілі бальшавіцкай настойлівасьці ў стварэньні рашучага пералому ў рабоце МТС і патрабуюць ад усіх работнікаў палітаддзелаў МТС у першую чаргу ад начальнікаў палітаддзелаў, самага канкрэтнага, актыўнага і непасрэднага ўключэньня ва ўсе вучасткі і дэталі практычнай работы МТС, выпраўляючы на-хаду ўсе наяўныя недахопы.

ЦК і СНК прапануюць дырэктаром і начальнікам палітаддзелаў МТС, сакратаром райкомаў, старшыням РВК і райКК па атрыманьні гэтай дырэктывы канкрэтна, па пунктах праверыць вы-

кананьне пастаноў ЦК аб працы МТС, дабіўшыся іх поўнага ажыцьцяўленьня.

Даручыць тав. Пыжыкаву неадкладна прыцягваць да адказнасьці тых работнікаў палітаддзелаў МТС, якія не даб'юцца карэннага пераломy ў рабоце МТС.

# Аб ахове пасеваў у каапгасах

**Пастанова ЦСПСБ**

У сувязі з выяўленымі фактамі раскрадваньня пасеянага насеньня бульбы і ўлічваючы леташнія выпадкі па кражы гародніх культур, патраў пасеўных плошчаў і сенажаці, псаваньне культур праездам, прагонам жывёлы і сьвядомае злачынства ў зьнішчэньні пасеўных культур клясавымі ворагамі, прэзыдыум ЦСПСБ пастанаўляе:

1. Абавязаць дырэктароў усіх каапгасаў забясьпечыць ахову палёў у прыгарадных гаспадарках вартаўнікамі з лепшых рабочых, праверaных ударнікаў. Рабачкомам каапгасаў паглыбіць палітычна-выхаваўчую працу сярод рабочых каапгасаў, гэтым самым узмацніць іх клясавую пільнасьць у ахове каапгасных палёў.

2. Прапанаваць ФЗМК, якія маюць прыгарадныя гаспадаркі, устанавіць рэгулярнае дзяжурства рабочых ударнікаў асобных шэфствуючых цэхаў на палёх сваіх вучасткаў у каапгасах у парадку грамадзкасьці і за кошт адпрацоўкі працадзён, згодна пастановы прэзыдыуму аб скарыстаньні рабочых у прыгарадных гаспадарках.

# Аб якасьці сяўбы па Дзяржынскаму раёну

**Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР ад 11 мая 1933 г.**

На падставе матар'ялаў абсьледваньня Наркамзем канстатуе, што:

1. Дзяржынскі райза і МТС не забясьпечылі канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва правядзеньнем веснавой сяўбы, выкананьня якасных паказальнікаў па ворыву і сяўбе, не давялі да пасеўшчыкаў абавязковых агратэхнічных правіл. Аграправілы невядомы ня толькі калгасам, а нават аграпрацаўнікам, якія пасылаюцца райза і МТС на правядзеньне сяўбы (аграномы Ляхаўскага сельсавету ня ведаюць нават аб забароне пасеву ў аднавор).

2. Спачатку разгортваньня сяўбы райза і МТС не арганізавалі кантролю якасьці сяўбы, у выніку чаго некаторыя калгасы зрабілі пасеў яравых у аднавор (калгас „На варце", „Чырвоны пагранічнік" і інш.).

3. Трактарнае ворыва праводзіцца з агрэхамі з прычыны няправільнай устаноўкі плугоў і няўважлівасьці трактарыстаў.

4. Пасеў робіцца кепска ачышчаным насеньнем, неправераным на чыстату і ўсхожасьць (калгас „Чырвоны пагранічнік" „Войск ДПУ" і інш.).

5. Калгас „Чырвоны штандар" з-за бязьдзейнасьці кантрольна-насеннага пункту не атрымаў вынікаў аналізу насеньня, а МТС, ня гледзячы на катэгарычныя дырэктывы НКЗБ, зусім не арганізавала праверкі якасьці насеньня.

6. Радковыя сявяркі не скарыстоўваюцца, нават пры наяўнасьці іх у калгасах пасеў праводзіцца ўручную (калг. „Чырвоны пагранічнік", „На варце" і інш.).

7. У радзе выпадкаў адсутнічае задзелка насеньня, якое застаецца на паверхні глебы (калг. „Чырвоны пагранічнік", „9-га студзеня" і інш.).

8. З прычыны дрэннага догляду коняй, апошнія знаходзяцца ў дрэнным становішчы і затрымліваюць пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы (калг. імя Крупскай і „Чырвоны штандар").

9. З-за адсутнасьці належнай увагі да падбору трактарыстаў і іх працы— трактары выкарыстоўваюцца надзвычай дрэнна, значная частка іх рамантуецца ў часе сяўбы, а выпрацоўка працуючых трактараў вельмі нізкая (у калгасе „Чырвоны пагранічнік" 2 трактары за працоўны дзень узаралі толькі 2 га).

Пералічаныя факты сьведчаць аб тым, што работнікі зямельных органаў Дзяржынскага раёну не даюць рашучага адпору кулацкаму сабатажу, не вядуць належнай барацьбы за лепшую апрацоўку глебы і павышэньне ўраджайнасьці і гэтым самым груба парушаюць дырэктывы партыі і ўраду.

Такое становішча Народны Камісарыят Земляробства прызнае недапушчальным і п а с т а н а ў л я е:

1. За ігнараваньне якасных паказальнікаў веснавой сяўбы і дрэннае кіраўніцтва з боку райза і МТС абвясьціць вымову загадчыку райза тав. Забалоцецу, дырэктару МТС тав. Атахелю, загадчыкам вытворчых вучасткаў тав. Траяноўскаму і Стэфановічу, райаграному т. Кургану, аграномамМТС т. т. Шапіра, Кулікоўскаму, Лубінкову і Клочко.

2. Абавязаць райза прыцягнуць да адказнасьці старшынь наступных калгасаў: „Чырвоны пагранічнік" тав. Савасьцюк, „На варце" тав. Цэзіка, „Войска ДПУ" тав. Юховіча, „9-га студзеня" тав. Бэкша, „Карла Маркса" тав. Гарбатовіча, імя Крупскай тав. Лукашэвіча.

3. Папярэдзіць райза і МТС, што калі імі ня будзе забясьпечана выкананьне якасных паказальнікаў па веснавой сяўбе, яны будуць прыцягнуты да больш суровай адказнасьці, як за зрыў мерапрыемстваў партыі і ўраду па павышэньні ўраджайнасьці.

4. Прапанаваць усім загадчыкам райза і дырэктарам МТС безадкладна давесьці аграправілы да саўгасаў, паасобных калгасных брыгад і да кожнай аднаасобнай гаспадаркі, зьвярнуўшы асаб-

лівую ўвагу на дасканалую прадпасеўную апрацоўку глебы і задзелку высеенага насеньня. Не дапускаць пасеву неправераным на ўсхожасьць насеньнем, а засьмечанае насеньне абавязкова адсартаваць.

5. Устанавіць штодзенны кантроль за якасьцю работы з боку аграномаў і брыгадзіраў. Вінаватых у невыкананьні аграправіл па пасеву прыцягнуць да суровай адказнасьці.

6. Абавязаць дырэктароў МТС і праўленьні калгасаў устанавіць такі парадак работы, пры якім аграномы і паляводы павінны абавязкова правяраць штодзенна сявяркі і норму высеву на га.

7. Абавязаць дырэктароў МТС скласьці нармальныя ўмовы для працы трактарыстаў, прыняць усе захады да паляпшэньня іх бытавых умоў, адначасова рашуча вядучы барацьбу з рвачамі, лодырамі і лятунамі.

8. Вызваліць аграномаў райза і МТС на час веснавой сяўбы ад усякіх канцылярскіх работ, прапанаваць ім пераключыцца на практычнае кіраўніцтва ходам сяўбы і кантроль за якасьцю апошняй непасрэдна ў полі.

9. Абавязаць усе райза ўжыць адпаведныя меры па ўзмацненьні сяўбы ў аднаасобным сэктары і штодзенна кіраваць ёю.

10. Для паляпшэньня якасьці ворыва, як правіла, прышрубоўваць да плугоў дыскавыя нажы—пры ворыве на цьвёрдых глебах да ўсіх карпусоў, а на мяккіх ня менш аднаго нажа да задняга корпусу.

11. Для зьнішчэньня агрэхаў пры пасеве трактарнымі сявяркамі забараніць МТС ужываньне сявярак бяз сьледапаказальнікаў ці маркераў, асабліва зьвярнуць увагу на захаваньне просталінейнасьці радкоў і правільнасьці міжрадзьдзяў пры пасеве прапашных культур.

12. Пры разьбіўцы трактараў па брыгадах даваць ім такую нагрузку, якая-б выключала частыя перакідкі трактараў з аднаго вучастку на другі.

Нам. Старшыні СНК і Народны Камісар Земляробства БССР Бэнэк

# Пра ход сяўбы раньніх яравых культур у калгасах

**Пастанова № 98 Прэзыдыуму ЦКК і Калегіі НК РСІ Бел. ад 6 мая 1933 г.**

Выбарачнай праверкай ходу сяўбы раньніх яравых культур у калгасах Слуцкага, Лёзьнянскага, Дрысенскага, Талачынскага, Буда-Кашалеўскага, Церахоўскага, Капыльскага, Плешчаніцкага, Брагінскага і інш. раёнаў, праведзенай брыгадамі ЦКК-РСІ і раённымі КК-РСІ устаноўлена, што разгортваньне сяўбы ў калгасах у большасьці раёнаў праходзіць нездавальняюча і, што ў арганізацыі працы па веснавой сяўбе, а таксама ў кіраўніцтве ёю ёсьць рад недахопаў, якія затрымліваюць тэмпы сяўбы і аслабляюць барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці.

1. Адсутнічае чоткая расстаноўка сіл унутры калгасных вытворчых брыгад, у сілу гэтага ўстанаўліваецца стыхійна чарговасьць у выкананьні розных палявых работ (ворыва, баранаваньне, пасеў) і выклікаецца вялікі разрыў у тэрмінах ад пачатку апрацоўкі глебы да вытварэньня самаго севу, які (разрыў) у сярэднім складае 8-10 дзён, а ў паасобных выпадках даходзіць да 15-18 дзён (Дрыса).

2. У выніку няўменьня правільна расставіць сілы, правільна спалучыць конныя і пешыя работы, зьвязаць пасеў палявых культур з падрыхтоўкай да пасеву гародніх культур і г. д., у радзе калгасаў мае месца няпоўнае скарыстаньне мужчынскай рабочай сілы і амаль паўсемясцовае нескарыстаньне жаночай працы.

3. У большасьці калгасаў фактычна ўстанавіўся кароткі рабочы дзень з сярэдняй працягласьцю 8-9 гадзін, а ў паасобных выпадках 7 гадзін (калгас „Пабеда“ № 1 Лёзьнянскага раёну), прычым гэта зьяўляецца вынікам позьняга выхаду на работу (8 гадзін) і раньняга прыезду з поля (7-8 гадз.), вялікай траты часу ад пачатку збору да выхаду ў поле—45 хвілін—1 гадзіна (калгас імя „Молатава“ Слуцкага раёну. „Пабеда № 2“ Лёзьнянскага раёну), а таксама вынікам абмежаваньня працягласьці рабочага дню у гадзінах (10-цігадзінны дзень у некаторых калгасах—Буда-Кашалеўскі раён), а не патрэбнасьцю выкананьня ўстаноўленых норм выпрацоўкі і высокай якасьці работы.

4. Няправільна скарыстоўваецца конская цягавая сіла. Ня выконваецца дырэктыва СНК СССР і ЦК Усе КП(б) аб выдзяленьні слабасільных коняй у асобныя групы з устанаўленьнем для іх паменшаных норм выпрацоўкі. Слабыя і сільныя коні пушчаюцца ў адну баразну, гэтым фактычна памяншаецца прадукцыйнасьць працы сільных коняй і замаруджваюцца тэмпы палявых работ.

5. Нездавальняюча праводзяцца агратэхнічныя мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці:

а) ігнарыруецца радавы пасеў, як адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці і значнай эканоміі насеньня. Мае месца прамое нежаданьне зламаць коснасьць у адносінах да радавога пасеву і аўладаць тэхнікай радавых сеялак;

б) мэханічна ўжываюцца нормы высеву бяз уліку ўсхожасьці і іншых якасьцей насеньня (калгас „Чырвоны партызан“ Церахоўскага раёну—высеў 1,41 ц. ячменя пры ўсхожасьці 79 проц., 1,37 ц. аўса пры яго ўсхожасьці ў 88 проц.), што ня можа спрыяць павышэньню ўраджайнасьці;

в) нескарыстаньне сродкаў пратручваньня насеньня (калгасы Талачынск. раёну).

г) пасеў па незабаранаванаму пласту (Церахоўскі і Брагінскі раёны.)

6. Кіраўніцтва ходам севу з боку Райза і МТС пастаўлена нездавальняюча. Райза і МТС не ўстанавілі каляндарных тэрмінаў пасеву паасобных культур, ня маецца дакладнага вучоту праведзеных работ і ня ведаюць фактычнага становішча справы як у раёне у цэлым, так і ў паасобных калгасах, таму пазбаўлены фактычна магчымасьці апэрацыйна кіраваць севам, свае дырэктывы калгасам яны ня ўвязваюць з канкрэтнай абстаноўкай, аб чым сьведчаць факты няведаньня Талачынскім Райза аб існаваньні 31 калгасу ў раёне, недавядзеньне да іх пасеўных плянаў, устанаўленьне Лёзьнянскай Райза і МТС такога тэрміну для пачатку палявых работ (25/V), які арыентаваў калгасы на зацягваньне палявых работ і супярэчыў дырэктывам ЦК КП(б) Бел. і СНК БССР.

7. Масавая работа сярод калгасьнікаў вакол пытаньняў севу абсьледваных раёнаў разгортваецца зусім слаба. Вытворчыя нарады па брыгадах праводзяцца выпадкова, брыгадныя газэты не выдаюцца, гутаркі не праводзяцца, сацспаборніцтва і ўдарніцтва не арганізуецца.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦКК і Калегія НК РСІ Бел. пастанаўляюць:

1. Прапанаваць РК КП(б)Б і РВК неадкладна прыняць меры па зьнішчэньні недахопаў у арганізацыі працы ў калгасах, для чаго:

а) расставіць сілы ўнутры брыгады такім чынам, каб было магчыма: 1) выконваць адначасова розныя палявыя работы на апрацоўцы глебы і пасеву (ворыва, баранаваньне, пасеў) і забясьпечыць гэтым шляхам скарачэньне тэрміну ад пачатку апрацоўкі глебы да пасеву 3-5 дзён; 2) выконваць адначасова конныя і пешыя работы на розных вучастках работы ў полі і гародзе (раскідваньне гною, перакопка град, параборка бульбы, сартыроўка насеньня, высадка насеньнікаў карняплодаў і гародніны, пасеў раньняй гародніны і г. д.), маючы на ўвазе неабходнасьць поўнага скарыстаньня ўсяе рабочай сілы для максымальнага скарачэньня тэрмінаў усіх відаў работ;

б) устанавіць такі парадак работы каб брыгада ня была абмежавана ніякімі гадзінамі працы ў полі, магла праявіць поўную ініцыятыву для максымальнага скарыстаньня людзей і конскай сілы на перавыкананьне ўстаноўленых норм выпрацоўкі і захаваньня адпаведнай якасьці работы, усямерна заахвочваючы раньні выхад на поле і позьні выхад з поля;

в) арганізаваць такі вучот працы, які забясьпечвае ацэнку работы кожнага калгасьніка як па колькасьці, так і па якасьці яе і своечасовы запіс працадзён у працоўныя кніжкі калгасьнікаў;

г) устанавіць, як правіла, правядзеньне нарадаў на наступны дзень з вечару з тым, каб кожны калгасьнік ведаў загадзя сваю задачу і мог выходзіць у поле незалежна ад таго, як акуратна зьбіраюцца астатнія калгасьнікі;

д) забясьпечыць вучот прагулаў і розных парушэньняў працоўнай дысцыпліны і няўхільнае правядзеньне ў жыцьцё дырэктыў сэсіі ЦВК СССР аб барацьбе з прагульшчыкамі.

2. У мэтах правільнага скарыстаньня конскай цягавай сілы і павышэньня прадукцыйнасьці яе працы, абавязаць праўленьні калгасаў, пад адказнасьць старшынь, выдзяліць слабасільных коняй у асобныя групы і ўстанавіць для іх паніжаныя нормы выпрацоўкі і не дапушчаць супраг сільных і слабых коняй; скарыстоўваць слабых коняй пераважна на больш лёгкіх работах і не дапушчаць пры ворыве ход слабых і сільных коняй у адной баразьне, што затрымлівае работу больш працаздольных коняй.

3. Прапанаваць райкомам, райвыканкомам, дырэктарам МТС і старшыням калгасаў наспраўе забясьпечыць правядзеньне ўсіх магчымых, ва ўмовах кожнай канкрэтнай гаспадаркі, агратэхнічных мерапрыемстваў для павышэньня ўраджаю, у прыватнасьці, зламаць супраціўленьне радавому пасеву і дабіцца поўнага скарыстаньня ўсіх радавых сеялак у раёне; забараніць пасеў рукамі па незабаранаванаму пасьля ворыва полю; ліквідаваць мэханічнае ўжываньне норм высеву разьлічаных на насеньне нармальнай якасьці (чыстаты, усхожасьці), павялічваючы гэтыя нормы у выпадку высева насеньня з паніжанай якасьцю.

Устанавіць сталы кантроль за якасьцю апрацоўкі глебы і іншых мерапрыемстваў па павышэньні ўраджаю і прыцягваць да суровай адказнасьці ўсіх канкрэтных носьбітаў сабатажу і ігнараваньня агратэхнікі.

4. Абавязаць РК КП(б)Б забясьпечыць лепшую пастаноўку масавай работы, усклаўшы адказнасьць за яе на ўпаўнаважаных РК па пасеўнай кампаніі. Устанавіць, як правіла, падагульваньне вынікаў работы брыгады за дзень на вытворчай нарадзе брыгады перад нарадам на другі дзень; арганізаваць азнаямленьне калгасьнікаў з вопытам перадавых калгасаў, асьвятляемым у друку і з пастановамі ЦК, СНК і інш. цэнтральных устаноў па пытаньнях веснавой сяўбы, выкарыстоўваючы гэтыя пастановы для павышэньня прадукцыйнасьці працы і ўзмацненьня тэмпаў работы.

5. Абавязаць загадчыкаў Райза і дырэктароў МТС наладзіць апэрацыйны вучот ходу сева з тым, каб кожны дзень было зусім ясна становішча работы на любым вучастку і неадкладна прымаць меры па ліквідацыі намячаючыхся прарываў.

6. Прыняць да ведама, што пастановай бюро РК і прэзыдыуму Талачынскай РКК—загадчык Талачынскага Райза т. Сукала, па віне якога ня быў даведзен плян пасеву да 31 калгасу раёну—з работы зьнят і прыцягнут да партыйнай адказнасьці.

7. За нячоткасьць у рабоце і няпрыняцьце мер па выпраўленьні памылак у вызначэньні тэрмінаў палявых работ і за адсутнасьць дакладнага вучоту работ па сяўбе—загадчыку Лёзьнянскага Райза і дырэктару МТС—паставіць на від.

8. Абавязаць РКК-РСІ арганізаваць праверку дакладнасьці апэрацыйнага вучоту сяўбы з мэтай барацьбы з „очковтирательством“ і спробамі падмяніць барацьбу за выкананьне плянаў сяўбы, якасьці работ—разважаньнямі аб няспрыяючых умовах і інш. шкоднымі размовамі.

Старшыня ЦКК КП(б)Б
Нарком РСІ Бел. **Лычоў.**

# Прэміі лепшым ударнікам веснавой сяўбы

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Улічваючы выключнае палітычнае і гаспадарчае значэньне пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы ў саўгасах, калгасах і аднаасобным сэктары, разгорнутага сацспаборніцтва паміж раёнамі, сельсаветамі, саўгасамі, МТС і калгасамі на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы,—ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:

1. Устанавіць два чырвоныя пераходныя сьцягі ЦК КП(б)Б і СНК БССР. Першы сьцяг—для раёну, які хутчэй і якасна лепш у рэспубліцы выканае плян веснавой сяўбы, другі сьцяг—раёну ільнаводчай групы за пасьпяховае і якасна-лепшае выкананьне пляну сяўбы ільну.

2. Для прэміяваньня перадавікоў барацьбітоў за пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, правядзеньне ў жыцьцё адозвы ўсесаюзнага і ўсебеларускага зьездаў калгасьнікаў-ударнікаў, а таксама за лепшае правядзеньне сацспаборніцтва БССР з Заходняй вобласьцю—устанавіць наступныя прэміі:

а) для раёнаў устанавіць тры прэміі:

Першая прэмія—легкавая машына;
Другая прэмія—5 тысяч рублёў;
Трэцяя прэмія—3 тысячы рублёў.

б) Для сельсаветаў—тры прэміі:

Першая прэмія—арганізацыя аграпамічнага або вэтэрынарнага пункту;

Другая прэмія—поўнае абсталяваньне памяшканьня сельсавету;

Трэцяя прэмія—поўнае абсталяваньне хаты-чытальні (кіно-перасоўка, радыё і г. д.).

в) Для калгасаў устанавіць 20 прэмій:

Першая прэмія—грузавая машына;
6 прэмій—поўнае абсталяваньне ясляў;
5 прэмій—радыё-прыёмнікі;
2 прэміі—гармонь;
6 прэмій—абсталяваньне чырвоных куткоў.

г) Устанавіць 75 прэмій для брыгадзіраў у калгасах і 150 прэмій для лепшых ударнікаў-калгасьнікаў.

Увага: Гэтыя прэміі выдаць каштоўнымі рэчамі (гармонікі, швэйныя машыны, гарнітуры, бібліятэчкі, гадзіньнікі і г. д.).

д) Для саўгасаў устанавіць тры прэміі:

Першая прэмія—поўнае абсталяваньне сталоўкі;

Другая прэмія—поўнае абсталяваньне памяшканьня інтэрнату рабочых;

Трэцяя прэмія—арганізацыя каштоўнай бібліятэчкі.

е) Прэміяваць 15 лепшых рабочых ударнікаў саўгасаў каштоўнымі рэчамі (5 прэмій—гадзіньнікамі, 5 прэмій—ботамі, 5 прэмій—гарнітурамі).

ж) Для МТС устанавіць тры прэміі: Першая прэмія—5.000 руб.; другая прэмія—4.000 руб.; трэцяя прэмія—3,000 руб.

Увага: Прэміі МТС выдаюцца для паляпшэньня культурнабытавых умоў работнікаў МТС.

з) Выдзеліць 50.000 руб. на правядзеньне ўсебеларускага конкурсу трактарыстаў, які праводзіцца ЦК ЛКСМБ і НКЗБ, устанавіўшы 80 прэмій лепшым трактарыстам грашыма і каштоўнымі рэчамі (парадак распрацоўваецца ЦК ЛКСМБ і НКЗ БССР).

і) Устанавіць 10 прэмій лепшым спэцыялістам сельскай гаспадаркі:

Першая прэмія—курортнае месца; другая прэмія—экскурсія па СССР, астатнія прэміі—каштоўнымі рэчамі: два вэлёсыпэды, два патэфоны, два гадзіньнікі і дзьве бібліятэчкі.

к) Устанавіць 20 прэмій аднаасобнікам:

2 прэміі—швэймашыны; 4 прэміі—боты; 4 прэміі—гадзіньнікі; 10 прэмій іншыя каштоўныя рэчы.

Асьвятленьне ходу спаборніцтва ўскласьці на газэту „Зьвязда“, абавязаўшы ўвесь друк як цэнтральны, так і раённы ў кожным нумары вылучыць куток, які-б асьвятляў ход спаборніцтва паміж калгасамі, сельсаветамі і раёнамі за пяршынства БССР у спаборніцтве з Заходняй вобласьцю.

Вылучэньне прэмій, а таксама кіраўніцтва ходам спаборніцтва ўскласьці на камісію па правядзеньні спаборніцтва з Заходняй вобласьцю.

Зацьвярджэньне прэмій цэлым раёнам, сельсаветам, МТС, калгасам, саўгасам праводзіць на пасяджэньні СНК па сканчэньні сяўбы з запрашэньнем на гэта пасяджэньне кіраўнікоў намечаных для прэміяваньня арганізацый.

Лепшых калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, МТС і аднаасобнікаў прэміяваць на пашыраных пленумах РВК, сельсавету, сходах калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС.

Даручыць т. Ґаладзеду па лініі СНК вызначыць адпаведныя крыніцы і стварыць неабходны прэміяльны фонд у адпаведнасьці з зацьверджанымі прэміямі.

---

# Ударнікам сяўбы—дадатковыя фонды праматвараў

## Пастанова Белкаапсаюзу

У мэтах далейшага стымуляваньня і пасьпяховага завяршэньня веснавой сяўбы, адпусьціць звыш нормы праматвары наступным перадавіком пасеўнай кампаніі:

1) Саўгасу Станькава, Дзяржынскага раёну, за выкананьне пляну сяўбы яравых на 110,4 проц. адпусьціць праматвараў на 3.000 руб.

2) Калгасу „Перамога“, Папярнянскага сельсавету, Менскага раёну за сканчэньне сяўбы яравых да 7 мая адпусьціць праматвараў на 3.000 руб.

3) Хойніцкай МТС за выкананьне пляну сяўбы збожжавых культур да 5-га мая на 102,6 проц. адпусьціць праматвараў на 3.000 руб.

4) Слуцкай МТС за выкананьне пляну сяўбы збожжавых культур да 5-га мая на 102,5 проц. адпусьціць праматвараў на 4.000 руб.

5) Лельчыцкай МТС за выкананьне пляну сяўбы збожжавых культур да 5-га мая на 108,2 проц. адпусьціць праматвараў на 3.000 руб.

6) Гаспадарцы Вішанка, Паўлаўскага сельсавету, Бабруйскага раёну, за поўнае сканчэньне сяўбы—на 5.000 р.

7 Прыгараднай гаспадарцы „Х Кастрычнік“, Рэчыцкага раёну, за сканчэньне сяўбы—на 3.000 руб.

8) Калгасу „Чырвоны Кастрычнік“, Дасовіцкага сельсавету, Магілеўскага раёну за сканчэньне сяўбы збожжавых да 8-га мая—на 2.000 руб.

9) Слуцкаму раёну за выкананьне пляну сяўбы яравых на 10 мая ў разьмеры 75,7 проц. для прэміяваньня лепшых с.|с., саўгасаў, калгасаў і працоўных аднаасобнікаў, якія выканалі пляны сяўбы—адпусьціць праматвараў на 20.000 руб.

10) Чырвона-Слабодзкаму раёну за выкананьне пляну сяўбы яравых на 10 мая ў разьмеры 77,9 проц. адпусьціць праматвараў на 15.000 руб. для лепшых калгасаў і аднаасобнікаў, якія скончылі сяўбу яравых культур.

11) Парыцкаму раёну за выкананьне пляну сяўбы яравых на 10 мая ў разьмеры 62,6 проц. адпусьціць праматвараў на 10.000 руб. для саўгасаў, калгасаў і працоўных аднаасобнікаў, якія скончылі сяўбу яравых.

12) Барысаўскаму раёну (па цэнтральнай зоне) за выкананьне пляну сяўбы на 10 мая ў разьмеры 47,7 проц. пераважна па аднаасобным сэктары—адпусьціць праматвараў на 10.000 руб. для калгасьнікаў і аднаасобнікаў—ударнікаў сяўбы.

13) Рагачоўскаму раёну за выкананьне пляну сяўбы яравых на 10 мая ў разьмеры 51,5 проц. адпусьціць праматвараў на 10.000 руб. для сельсаветаў, якія ідуць уперадзе па сяўбе.

Абавязаць гандлёвае кіраўніцтва, дырэктароў міжраённых баз і старшынь райспажыўсаюзаў давесьці гэтыя тавары да ўказаных раёнаў, МТС і калгасаў на працягу 3-х дзён.

Старшыня Белкаапсаюзу
**Царонак.**

# ЧЫРВОНАЯ ДОШКА

Пастановай камісіі ЦК КП(б)Б па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю—на чырвоную дошку за ўдарныя тэмпы веснавой сяўбы занесены наступныя раёны:

Чырвоная-Слабада—103,0 проц. Сакратар РК Крацэр, старшыня РВК Уткін.

Слуцак—101,2 проц. Сакратар РК Соскін, старшыня РВК Князеў.

Барысаў—90,6 проц. Сакратар РК Чарнышоў, старшыня РВК Баранчык.

Жыткавічы—99,1 проц. Сакратар РК Багданаў, старшыня РВК Пуцько.

Тураў—95,3 проц. Сакратар РК Ляхаў, старшыня РВК Нікіпаровіч.

Старобін—90,4 проц. Сакратар РК Варончанка, старшыня РВК Грышчанка.

Сянно—75,1 проц. пляну па ільне—сакратар РК Ленцнэр, старшыня РВК Брэль.

## Чырвоныя сьцягі ЦК і СНК БССР

# ЗА СЛУЦКАМ І СЯННО

Камісія ЦК КП(б)Б па спаборніцтве з Заходняй вобласьцю 23 мая разглядзела пытаньне аб прысуджэньні пераходных сьцягаў ЦК і СНК раёнам, якія паказалі лепшыя ўзоры барацьбы за тэмпы і якасьць сяўбы.

Камісія пастанавіла пакінуць пераходны чырвоны сьцяг за Слуцкім раёнам (сакратар РК КП(б)Б т. Соскін, старшыня РВК т. Князеў).

Канчаткова пытаньне аб прысуджэньні чырвонага сьцягу будзе вырашана на аснове вынікаў сяўбы за пятую пяціднеўку мая.

Пераходны сьцяг ЦК і СНК па групе ільнаводчых раёнаў пакінут за Сененьскім раёнам, які даў на 20 мая 75,1 проц. (сакратар РК т. Ленцнэр, старшыня РВК т. Брэль).

Ідуць у першых радох байцоў за пераходны чырвоны сьцяг наступныя раёны: Лёзьнянскі, Чашніцкі і Полацкі.

---

# ЧОРНАЯ ДОШКА

Пастановай Камісіі ЦК КП(б)Б па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю—за ганебныя тэмпы сяўбы занесены на чорную дошку і кандыдатамі на чорную дошку наступныя раёны:

Паўночная зона:

Сіроціна—19,0 проц. Сакратар РК Міраненка, старшыня РВК Цофін.

Асьвея—21,3 проц. Сакратар РК Сьцефановіч, старшыня РВК Шкадарэвіч.

Гарадок—23,4 проц. Сакратар РК Эльман, старшыня РВК Еўдасеў.

Цэнтральная зона:

Талачын—38,2 проц. Сакратар РК Славін, старшыня РВК Лоцманаў.

Горкі—42,4 проц. Сакратар РК Чорнабродаў, старшыня РВК Кандраль.

Мсьціслаўль—42,8 проц. Сакратар РК Раманенка, старшыня РВК Марон.

Паўднёвая зона:

Чырвонапольле—55,6 проц. Сакратар РК Лапацін, старшыня РВК Кірэеў.

Лоеў—59,0 проц. Сакратар РК Трус, старшыня РВК Асмалоўскі.

Камарын—61,1 проц. Сакратар РК Кавалёў, старшыня РВК Воўкаў.

* * *

Пастановай камісіі ЦК КП(б)Б па спаборніцтве з Заходняй вобласьцю—за ганебнейшыя тэмпы сяўбы пакінуты на чорнай дошцы.

Аршанскі сьвінаводтрэст—дырэктар Аскерка.

Віцебскі малпрамтрэст—дырэктар Казак.

Дадаткова занесен на чорную дошку—

Магілеўскі сьвінаводтрэст—дырэктар Стрыго.

## Кандыдаты на чорную дошку

Дрыса—24,5 проц. Сакратар РК Будзін, старшыня РВК Антонаў.

Бешанковічы—28,5 проц. Сакратар РК Якаўлеў, старшыня РВК Шак.

Крупкі — 46,2 проц. Сакратар РК Штэйнгардт, старшыня РВК Скараход.

Клічаў—47,4 проц. Сакратар РК Шатаў, старшыня РВК Грыбаедаў.

Ельск—62,0 проц. Сакратар РК Уласенка, старшыня РВК Зеньчык.

Нароўля—62,6 проц. Сакратар РК Казачонак, старшыня РВК Элькін.

# Шырэй спаборніцтва з Заходняй вобласьцю

## Пастанова ЦСПСБ

1. Надаючы выключна важнае гаспадарча-палітычнае значэньне заключанаму сацыялістычнаму дагавору паміж зьездамі калгасьнікаў-ударнікаў Беларусі і Заходняй вобласьці на лепшае правядзеньне сяўбы, праполкі і ўборкі— ўхваліць ініцыятыву заводаў імя Варашылава і Мясьнікова, якія выклікаюць на сацыялістычнае спаборніцтва прадпрыемствы Заходняй вобласьці на лепшае правядзеньне сяўбы, праполкі і ўборкі ў падшэфных гэтым прадпрыемствам калгасах, МТС і сельсаветах, на лепшую пастаноўку ў іх палітмасавай работы, а таксама выклікаюць на спаборніцтва фабрыку „Кастрычнік" і абутковую.

Рэкамэндаваць ФЗМ прадпрыемстваў падтрымаць ініцыятыву гэтых заводаў.

2. Ухваліць ініцыятыву саўгасаў Вязынь-Фаніпаль і імя Сьвярдлова, якія выклікаюць на сацспаборніцтва саўгасы Заходняй вобласьці на пасьпяховае правядзеньне сяўбы, праполкі і ўборкі.

Прапанаваць ЦП саюзаў жывёлагадоўчых і землеробчых саўгасаў праверыць ход выкананьня сацдагавароў, заключаных паміж цэнтральнымі праўленьнямі і абласнымі камітэтамі Заходняй вобласьці гэтых саюзаў, паставіўшы гэту работу так, каб яна не абмяжоўвалася сацдагаварамі паміж ЦП і абласнымі камітэтамі, а канкрэтнымі дагаварамі— сацспаборніцтва паміж саўгасамі.

3. Даручыць культмасаваму аддзелу ЦСПСБ, аддзелу рабочага снабжэньня і шэфбюро ЦСПСБ, пад адказнасьць т. т. Сьвярдлова, Кучаравага і Карпусенка аказаць канкрэтную дапамогу гарпайпрафсаветам і прадпрыемствам у правядзеньні гэтай работы.

Для практычнай дапамогі ў правядзеньні гэтай работы камандыраваць у гарады: Гомель—тав. Патапейку, Віцебск—тав. Пархоменку, Магілеў—тав. Багарада, Барысаў—тав. Міркіна, а таксама прымацаваць да г. Менску—т. т. Сьвярдлова, Карпусенку, Смолікава, Кучаравага і Грэка.

---

# Аб аварыях трактараў у саўгасах Глускага раёну

### Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Заслухаўшы паведамленьне камісіі ЦК КП(б)Б об выбыцьці са строю ў саўгасах: Харомцы—аднаго трактара, Завалочыцы—трох трактараў, Веснавое —аднаго трактара і Халапенічы—1 трактара, ЦК КП(б)Б і СНК БССР адзначаюць:

1. Усе гэтыя аварыі мелі месца ў выніку простага ігнараваньня кіраўніцтвам саўгасаў, паасобнымі мэханікамі і трактарыстамі рашэньняў партыі і ўраду аб трактарным парку; не правяралася кваліфікацыя трактарыстаў, у выніку чаго на трактарах працавалі зусім нявопытныя трактарысты (саўгас Харомцы), ня выконваліся ўказаньні аб аглядзе і чыстцы трактараў кожныя пяць дзён; на трактары не заведзены пашпарты і адсутнічалі патрэбныя запасныя часткі.

2. У саўгасе Завалочыцы мелі месца злачынныя адносіны да трактараў мэханіка Шаблоўскага, брыгадзіра Бузака, якія, ведаючы аб няспраўнасьці трактара, ня толькі не папярэдзілі аварыі, але аднесьліся няўважліва да заявы трактарыста Сяргейчыка аб падазроных стуках матора і прапанавалі яму працаваць на трактары далей (трактар праз 10 мінут выбыў са строю).

3. Сярод трактарыстаў адсутнічала партмасавая работа.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:

1. Абвясьціць вымову дырэктару саўгасу Харомцы тав. Лубсякову за дапушчэньне да трактараў некваліфікаваных і неправераных трактарыстаў, за пуск у эксплёатацыю трактара бяз акту прыёму і здачы яго з рамонту.

2. Даручыць пракуратуры рэспублікі прыцягнуць да судовай адказнасьці асоб, рабіўшых рамонт трактара „Інтэр“, саўгасу Харомцы і трактара „Фардзон пуцілавец“ саўгасу Веснавое.

3. Абвясьціць вымову з занясеньнем у працоўны сьпіс мэханіку Шаблоўскаму і брыгадзіру Бузаку за дапушчэньне работы на няспраўным трактары, трактарысту Сяргейчыку—за несваечасовую астаноўку трактара ў час аварыі.

4. Папярэдзіць дырэктароў саўгасаў Завалочыцы, Веснавое і Халапенічы, што факты аварый у гэтых саўгасах сьведчаць аб зусім нездавальняючым кіраўніцтве імі трактарным паркам.

Абавязаць дырэктароў саўгасаў у трохдзённы тэрмін скласьці пашпарты на кожны трактар.

5. Указаць бюро Глускага райкому КП(б)Б, што факты масавых аварый трактараў у радзе саўгасаў Глускага раёну сьведчаць аб нездавальняючым кіраўніцтве райкому саўгасамі, аб адсутнасьці партмасавай работы сярод трактарыстаў у саўгасах Глускага раёну вакол рашэньняў ЦК і СНК аб трактарным парку.

6. Абавязаць Упаўнаркамсаўгасаў забясьпечыць названыя саўгасы неабходнымі запаснымі часткамі да трактараў

# Пра становішча трактарнага парку саўгасу „Пралетары“, Церахаўскага раёну

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 11 мая 1933 г.

Заслухаўшы паведамленьне камісіі ЦК КП(б)Б аб выбыцьці са строю 9 трактараў з наяўных 15 у трактарным парку саўгасу „Пралетары“, ЦК КП(б)Б і СНК БССР адзначаюць:

1. У саўгасе „Пралетары“ былі ўсе ўмовы для своечасовага і добраякаснага рамонту і эксплёатацыі трактарнага парку. Трыкутнік-жа саўгасу замест апэрацыйнага кіраўніцтва работай парку абмежаваўся апартуністычнымі разважаньнямі, што „ў трактарах нічога не разумеем“ і фактычна пусьціў справу рамонту і эксплёатацыі трактарнага парку на самацёк, перадаверыўшы парк неправераным і нават клясава-чужым элемэнтам (заг. майстэрні Бойка, трактарысты Лыжка і Матусаў—былыя кулакі, брыгадзіры Антонаў і Кісьліца—з неправераным сацстановішчам). У рэзультаце такіх нядобраякасных апартуністычных адносін парк прыведзен у зусім нездавальняючы стан і са строю выбыла 9 трактараў з 15.

2. Пастанова ЦК і СНК СССР аб рамонце трактараў, дырэктывы ЦК і СНК БССР аб праверцы складу трактарыстаў, пастанова ЦК КП(б)Б аб Лепельскай МТМ, аб ходзе рамонту трактараў і інш. засталіся бяз усякай увагі партарганізацыі саўгасу, фактычна ігнараваліся і не праводзіліся ў жыцьцё.

3. РК, РКК КП(б)Б, РВК не правяралі ходу рамонту трактараў у саўгасе, поўнасьцю перадаверылі дырэкцыі саўгасу свае функцыі (у камісію па агляду трактараў ад РК КП(б)Б быў паслан нам. дырэктара гэтага-ж саўгасу) і фактычна штампавалі весткі, даваемыя саўгасам.

4. У выніку такіх адносін да рамонту і эксплёатацыі трактарнага парку, зборка і рамонт трактараў у майстэрні саўгасу рабіліся недобрасумленна, а ў радзе выпадкаў па-шкодніцку: на 4 трактарах каленчатыя валы пастаўлены з эліпсамі, шарыкі ў падшыпніках заліваліся без палудкі, масла-праваднікі падшыпнікаў забіваліся азбэстам, у цыліндар трактара № 16745 быў укінут болт; трактарныя часткі ў часе разборкі звальваліся ў кучу, а потым пераблытваліся.

5. Адсутнічала зацікаўленасьць і адказнасьць трактарыстаў за даручаную працу, мелі месца злачынныя, а часам шкодніцкія адносіны да справы скарыстаньня і эксплёатацыі трактараў з боку раду трактарыстаў. Псаваньне і спыненьне трактараў у саўгасе лічыцца звычайным зьявішчам (трактарыст Антонаў разьбіў поршань у трактары; трактарысты Белышаў і Земчанка выплавілі і разьбілі падшыпнікі ў трактарах, прычым Земчанка прабаваў паставіць падшыпнік з пяском; трактарыст Дудораў выплавіў падшыпнік і пацарапаў вал у адным трактары, а ў другім разьбіў укладыш).

6. Дырэкцыя саўгасу ня толькі не кантралявала работы майстэрні, а займалася простым ашуканствам і „очковтирательством“, паведамляючы, што трактары адрамантаваны, тады як у сапраўднасьці ўжо ў часе пробнага выезду—1 красавіка 1933 г. 9 трактараў не вярнуліся з поля. Прыёмка трактараў рабілася фармальна, абкатка адбывалася толькі часткова, ня былі праверваны і вынуты нядобраякасныя часткі.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:

1. Зьняць з работы і аддаць пад суд дырэктара саўгасу „Пралетары“ Павідайку за нядбайныя адносіны да працы, нераспарадчасьць, „очковтиратель-

ство", прывёўшыя да зрыву работы трактарнага парку і глыбокага прарыву ў выкананьні саўгасам пляну сяўбы.

2. Зьняць з работы сакратара партячэйкі і намесьніка дырэктара саўгасу т. Новікава і аддаць пад суд. Даручыць аргінстру ЦК сумесна з райкомам КП(б)Б у трохдзённы тэрмін падабраць сакратара ячэйкі КП(б)Б саўгасу.

3. Аддаць пад суд мэханіка насенаводтрэсту Шутава, які прымаў удзел у аглядзе трактараў, не забясьпечыў правільнай зборкі іх і ня выкрыў шкодніцтва ў майстэрні.

4. Прыняць да ведама, што пракуратурай прыцягнуты да адказнасьці былыя загадчыкі майстэрні Бойка і Кравшчэнка, мэханік Купеба, брыгадзір Кісьліца і тэхнік Гомсельмашу Левін. Даручыць пракуратуры расьсьледваньне і разгляд справы закончыць у самы кароткі тэрмін.

5. Прыняць да ведама, што РК КП(б)Б і камісіяй ЦК прыняты меры па ліквідацыі прарыву і сканчэньні рамонту трактараў і што на час пасеўнай кампаніі трэстам камандырован у саўгас аграном для практычнай дапамогі.

6. Даручыць аддзелу кадраў ЦК у тэрміновым парадку камандыраваць ў саўгас „Пралетары", для пастаяннай работы дырэктара, намесьніка і старшыню рабачкому.

7. Указаць сакратару Церахаўскага РК КП(б)Б т. Сурба, што становішча ў саўгасе „Пралетары", дзе бескантрольна гаспадарылі чужыя элемэнты, пераражджэнцы, сьведчыць аб зусім нездавальняючай, небальшавіцкай практыцы кіраўніцтва райкому КП(б)Б саўгасамі, якое выяўлялася ў штампаваньні саўгасных вестак, без фактычнага кантролю і апэрацыйнага кіраўніцтва работай саўгасу.

Абвясьціць вымову ўсяму складу бюро Церахаўскага райкому КП(б)Б і пэрсанальна сакратару райкому т. Сурба, старшыні РВК Дупанаву і старшыні райКК т. Шчэмарову за невыкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб рамонце трактарнага парку.

8. ЦК КП(б)Б і СНК БССР зварачаюць увагу ўсіх РК КП(б)Б і партарганізацыйса ўгасаў і МТС, што нездавальняючае становішча трактарнага парку ў радзе саўгасаў і МТС (псаваньне трактараў у Глускім, Смалявіцкім, Заслаўскім, Дзяржынскім і іншых раёнах) зьяўляецца прычынай недапушчальных, нядбайных, безгаспадарчых адносін да трактараў у саўгасах і МТС, у першую чаргу дырэктароў саўгасаў, раду мэханікаў і трактарыстаў, і няўменьне парт-арганізацыі саўгасаў і МТС па-бальшавіцку мабілізаваць рабочых саўгасаў, трактарыстаў на барацьбу за безаварыйны трактар, за найбольш эфэктыўнае яго скарыстаньне.

9. Адзначыючы, што па радзе саўгасаў пастанова ЦК і СНК БССР аб трактарным парку прапрцавана нездавальняюча, фактычна не даведзена да рабочых, трактарыстаў,—абавязаць усе РК КП(б)Б прапрацаваць гэту і папярэднюю пастанову ЦК і СНК аб трактарным парку на адкрытых партыйных і камсамольскіх сходах саўгасаў і МТС.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР яшчэ раз падкрэсьліваюць, што работа дырэкцыі палітаддзелаў і партарганізацый саўгасаў будзе ацэньвацца па становішчы і эфэктыўнасьці работы трактарнага парку саўгасу і ўменьні мабілізаваць масы на выкананьне дырэктыў партыі аб веснавой сяўбе.

# Аб рабоце трактарнага пэрку МТС у час веснавой сяўбы

### Пастанова № 99 Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ Бел. ад 6 мая 1933 году.

Выбарачнай праверкай работы трактараў Слуцкай, Лёзьнянскай, Рагачоўскай, Барысаўскай, Церахаўскай, Пухавіцкай і Боркавіцкай машына-трактарных станцый і трактараў, працуючых у калгасах і саўгасах Брагінскага раёну, праведзенай брыгадамі ЦКК і РКК-РСІ устаноўлена, што трактарны парк большасьці МТС працуе нездавальняюча, што відаць з таго, што трактары прастойваюць па 50-60 проц. часу (Церахаўская, Слуцкая МТС), ня выконваюць норм выпрацоўкі да 66 проц. (Пухавіцкая і Боркавіцкая МТС, калгасы Брагінскага раёну)—перарасходуюць гаручае—61 проц. (Брагінскі р-н) і 147 проц. (Боркавіцкая МТС).

Прыклады работы паасобных трактараў Церахаўскай, Брагінскай МТС, якія (трактары) дасягнулі 82-86 проц. выкананьня норм выпрацоўкі і нязначнага перарасходу гаручага паказваюць поўную магчымасьць лепшай арганізацыі працы трактараў і атрыманьня больш высокай яе прадукцыйнасьці.

Асноўнымі прычынамі дрэннай работы трактараў зьяўляюцца:

1. Няведаньне работнікамі МТС глебавых умоў і рэльефу іх раёнаў дзейнасьці і няўменьне ў адпаведнасьці з умовамі глебы і рэльефу паставіць трактарны парк.

2. Адсутнасьць сапраўднага апэрацыйнага кіраўніцтва трактарнымі атрадамі, пабудаванага на канкрэтных асаблівасьцях кожнага вытворчага вучастку, з боку МТС;

3. Нізкая кваліфікацыя многіх трактарыстых, што асабліва шкодна адбіваецца на рабоце трактараў пры зусім недастатковым наглядзе і кантролі за іх работай з боку брыгадзіраў і загадчыкаў вытворчых вучасткаў (Пухавіцкая, Лёзьнянская, Рагачоўская).

4. Абсалютна слабая працоўная дысцыпліна, аб чым сьведчаць нявыхад на работу трактарыстаў і брыгадзіраў, спазьненьні трактарыстаў да 12 гадз. дню, самавольныя ўходы трактарыстаў з работы (Лёзна, Пухавічы).

5. Частыя паломкі трактараў, якія абумоўліваюцца нядбайнымі адносінамі да трактараў, асабліва з боку маладых трактарыстаў і адсутнасьць нагляду за становішчам трактараў з мэтай папярэджаньня рамонту.

У сьвеце гэтых фактаў разважаньні аб кепскім надвор'і, непрасохшай глебе, буксаваньні трактараў зьяўляюцца нічым іншым, як спробамі работнікаў МТС, упаўнаважаных РК і РВК апраўдаць сваю бязьдзейнасьць і няўменьне кіраваць канкрэтна спасыланьнямі на аб'ектыўныя прычыны.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦКК і Калегія НК РСІ пастанаўляюць:

1. Абавязаць РК КП(б)Б і РВК умацаваць вытворчыя вучасткі МТС шляхам прымацаваньня да кожнага вучастку на ўвесь час сяўбы ўпаўнаважаных РК і РВК для апэрацыйнага кіраўніцтва работай трактараў з ускладаньнем на гэтых упаўнаважаных поўнай адказнасьці за работу трактарнага парку, нараду з загадчыкамі вучасткаў. Дабіцца на працягу бліжэйшых 2-3 дзён уключэньня ў работу ўсяго трактарнага парку.

2. Прапанаваць дырэктарам МТС вызваліць загадчыкаў вытворчых вучасткаў МТС на ўвесь час сяўбы ад усякай работы, ня зьвязанай непасрэдна з кіраўніцтвам работай трактараў.

3. Абавязаць РК КП(б)Б і дырэктароў МТС пераглядзець склад брыга-

дзіраў трактарных атрадаў і замяніць слабых і няздольных арганізаваць работу сваей брыгады больш моцнымі работнікамі, якія праявілі на практычнай рабоце веданьне трактару і арганізатарскія здольнасьці, павысіўшы сярод іх партыйна-камсамольскую праслойку.

У мэтах барацьбы з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны арганізаваць улік злосных прагульшчыкаў і няўхільна праводзіць у адносінах да іх дырэктывы сэсіі ЦВК СССР аб пакараньні прагульшчыкаў штрафамі і выключэньнем з калгасаў з адначасовым разгортваньнем масавай выхаваўчай работы сярод трактарыстаў, на аснове канкрэтных прыкладаў барацьбы з прагуламі і інш. парушэньнямі працоўнай дысцыпліны.

4. Даручыць РК і РКК КП(б)Б пры выяўленьні безадказных і нядбайных адносін да трактараў і сваей працы членаў і кандыдатаў партыі,—прыцягваць іх да стражайшай партадказнасьці, аж да выключэньня з партыі і аддачы пад суд.

5. Прапанаваць дырэктарам МТС арганізаваць сыстэматычны тэхнічны нагляд за становішчам трактараў і своечасова рабіць папярэджальны рамонт.

У выпадку паломак трактараў з прычыны нядбайных адносін да трактараў у час працы іх як з боку брыгадзіраў трактарных калён, нач. вучасткаў, так і МТС—прыцягваць вінаватых да суровай адказнасьці, не застанаўліваючыся перад адданьнем пад суд.

6. Прыняць да ведама паведамленьне Лёзьнянскай РКК-РСІ аб тым, што віноўнікі хішчэньня гаручага ў Лёзьнянскай МТС прыцягнуты да судовай адказнасьці.

7. Прапанаваць начальнікам трактарацэнтраў снабдзіць МТС ушырыцелямі для калёс з тым, каб імі былі забясьпечаны трактары тых вытворчых вучасткаў, якія знаходзяцца ў асабліва няспрыяючых умовах глебы і рэльефу.

Нам. Наркома РСІ БССР
**Аверын.**

# Аб скарыстаньні вопыту Ульянаўскай МТС (Украіна) па прымяненьні ачышчалак для трактараў ХТЗ і СТЗ у мэтах папярэджаньня буксаваньня

**Пастанова № 100 Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ Бел. ад 8|V-33 г.**

1. Прызнаць, што вопыт Ульянаўскай МТС аб ужываньні ачышчалак для трактараў у мэтах папярэджаньня буксаваньня іх (апісаны ў газ. „Известия“ за 6|V-33 г.) можа быць скарыстаны ва ўсіх раёнах БССР, дзе распаўсюджаны цяжкія сугліністыя і гліністыя глебы.

2. Прапанаваць дырэктарам трактарацэнтраў і саўгастрэсту ў аднадзённы тэрмін даць дырэктыву МТС і саўгасам, маючым трактары ХТЗ і СТЗ у вышэйпаказаных раёнах, аб вырабу ня менш як аднаго экз. ачышчалак на кожны МТС і саўгас і аб выпрабаваньні іх на розных вучастках МТС і саўгасаў з прыцягненьнем да ўдзелу ў выпрабаваньні прадстаўнікоў Райза і РСІ.

3. Абавязаць Усебеларускую машына-спытацельную станцыю пры НКЗ у трохдзённы тэрмін скласьці рабочыя чарцяжы і даць у трактарыцэнтры і саўгастрэсты для распаўсюджваньня па МТС і саўгасах.

Не пазьней 12|V-33 г. зрабіць у майстэрні станцыі ня менш 5-ці ачышчалак і правесьці выпрабаваньне іх з удзелам спэцыялістаў станцыі ў саўгасах і МТС, вынікі выпрабаваньня даслаць у ЦКК НК РСІ Бел. да 15|V-33 г.

4. Прапанаваць НКЗему адпусьціць машына-спытацельнай станцыі для правядзеньня гэтай работы неабходныя сродкі.

5. Даручыць РКК-РСІ прасачыць за тым, каб МТС і саўгасы, атрымаўшыя заданьне аб вырабу ачышчалак, бязумоўна выканалі гэтае заданьне, прыняць удзел у выпрабаваньні ачышчалак і акты выпрабаваньня даслаць у ЦКК не пазьней 25|V-33 г.

Старшыня ЦКК КП(б)Б—

Нарком РСІ Бел. **Лычоў**

# Аб удзеле культурных устаноў у ходзе сяўбы

## Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б

ЦК канстатуе, што Наркамасьветы, БелАН, Белдзяржвыдавецтва і інш. кіруючыя культурныя ўстановы яшчэ не ўключыліся даволі канкрэтна і апэрацыйна ў барацьбу за сяўбу. Справа арганізацыі дапамогі сяўбе не разглядаецца, як важнейшая баявая задача кожнай культурнай установы і арганізацыі.

Канкрэтная апэрацыйная работа ў дапамогу сяўбе падмяняецца голым фіксаваньнем таго, што робіцца на мясцох, або вычэрпваецца пасылкай у вёску кіруючых работнікаў.

Асноўным недахопам работы ўсіх культурных устаноў і арганізацый зьяўляецца адсутнасьць праверкі выкананьня, якая фактычна азначае, што работа цэлага раду культурных устаноў і арганізацый ідзе халастым ходам.

У мэтах стварэньня неадкладнага пералому ў справе арганізацыі дапамогі сяўбе з боку культурных устаноў—прапанаваць:

1. Наркамасьветы, пад адказнасьць тав. Бялугі, забясьпечыць правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

а) забясьпечыць правядзеньне і арганізаваць праверку ходу сяўбы на прышкольных вучастках, на аснове шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва;

б) разам з трактарацэнтрам арганізаваць падбор і пасылку ў пяцідзённы тэрмін тыпавых бібліятэк ва ўсе МТС і ў першую чаргу ў тыя, дзе арганізаваны палітаддзелы;

в) арганізаваць культбрыгады з літаратурных і артыстычных сіл для абслугоўваньня калгасьнікаў у часе сяўбы са спэцыяльна-распрацаванай праграмай.

2. БелАН і сэкцыі навуковых працаўнікоў правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) неадкладна даць рад артыкулаў у цэнтральныя і раённыя газэты па пытаньнях арганізацыі працы ў калгасах, севазваротаў, скарыстаньня цягавай сілы, разьмеркаваньня даходаў і г. д.;

б) арганізаваць праз райАНА рад лекцый па пытаньнях сяўбы асобных культур. Апрача таго, у асабліва адстаючых раёнах прачытаць непасрэдна на мясцох рад лекцый, гутарак па пытаньнях сяўбы, з улікам канкрэтнага становішча сяўбы ў тым або іншым раёне;

в) правесьці сіламі навуковых работнікаў праз друк, радыё і непасрэдна на мясцох растлумачальную работу аб парадку разьмеркаваньня ўраджаю.

г) арганізаваць жывы, сыстэматычны інструктаж кіраўнікоў агратэхгурткоў.

3. Прапанаваць Белдзяржвыдавецтву выпусьціць рад папулярных масавых брашур, якія абагульняюць station... 

4. Белдзяржкіно арганізаць сыстэматычную пасылку кіно-перасовак у асобныя калгасы з улікам ходу сяўбы ў іх, папулярызуючы праз кіно-ўстановы работу ўзорных калгасаў і мабілізуючы калгасныя масы на барацьбу з прарывамі ў адстаючых калгасах.

5. Радыёкамітэту, Белдзяржкіно і Белдзяржвыдавецтву забясьпечыць адлюстраваньне ў сваёй рабоце ходу спаборніцтва па сяўбе Беларусі і Заходняй вобласьці.

6. Камітэту радыёвяшчаньня, пад адказнасьць тав. Шукевіча і Упаўнаважанага Наркамсувязі—т. Валодзька, побач з далейшым разгортваньнем радыёперадач па пытаньнях сяўбы прыняць неадкладна неабходныя меры для абслугоўваньня радыё непасрэдна калгасьнікаў і аднаасобнікаў, практыкуючы ўстанаўленьне гучнагаварыльнікаў на палёх.

7. ЦСПСБ арганізаваць сыстэматычныя выезды рабочых брыгад у выхад-

ныя дні ў падшэфныя калгасы і сельсаветы для правядзеньня бягучага рамонту с.-г. машын, аказаньня дапамогі калгасам у справе арганізацыі працы снабжэньня хат-чыталень, чырвоных куткоў літаратурай, газэтамі і для непасрэднага ўдзелу ў масавай і культурнаасьветнай рабоце.

8. Абавязаць усе вышэйпамянёныя арганізацыі інфармаваць Культпроп ЦК кожныя 3 дні аб ходзе выкананьня данай пастановы.

---

# Аб праполцы азімых і яравых зернавых культур

**Пастанова № 271 Народнага Камісарыяту Земляробства БССР ад 18 мая 1933 г.**

У адпаведнасьці з пастановай СНК БССР ад 14|V і НКЗ СССР ад 7|V-г.г. № 729 Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Райза, МТС, старшынь праўленьняў калгасаў і дырэктароў саўгасаў безадкладна арганізаваць масавую праполку азімых і яравых калгасных пасеваў з тым, каб закончыць праполку да выхаду пасеваў у трубку.

2. У першую чаргу правесьці праполку найбольш каштоўных культур (пшаніца азімая і яравая) і найбольш засьмечаных вучасткаў (плешын ад вымачак, агрэхаў, ізрэжэных пасеваў і г. д.)

3. Правядзеньне праполкі на сваіх вучастках ускласьці на вытворчыя брыгады, скарыстаўшы на праполку ўсю свабодную ад пасева рабочую сілу і ў першую чаргу членаў сямей, падлеткаў.

4. Адказнасьць за ачыстку палёў ад пустазельля ўскладаецца: на вучастках калгаснай брыгады на брыгадзіраў, у цэлым па калгасу на старшынь праўленьняў, па МТС на аграномаў вытворчых вучасткаў і старшых аграномаў,—па саўгасах на старшых рабочых і дырэктароў.

5. Пры правядзеньні праполкі асаблівую увагу зьвярнуць на якасьць работы, выдаленьня пустазельля з корнем, на папярэджваньне вытаптываньня.

Скарыстоўваемых для праполкі падлеткаў і школьнікаў прымацаваць па 2—3 да вопытных калгасьнікаў.

6. Абавязаць Райза і МТС забясьпечыць інструктаж і масавую праверку хода праполкі, устанавіць цесную сувязь з камсамольскімі штабамі паходу на пустазельле, мабілізаваць на правядзеньне праполкі шырокія масы калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і асабліва моладзь.

7. Абавязаць Сэктар Вучоту і Адчонасьці, райза, саўгастрэсты і трактарацэнтры безадкладна арганізаваць апэрацыйную справаздачнасьць аб ходзе праполкі зернавых культур па формах устаноўленых Наркамземам Саюза.

Нам. Старшыні СНК
і Народны Камісар
Земляробства БССР

**Бэнэк**

---

# Аб сенаўборачнай кампаніі

**Пастанова № 246 Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР ад 30|IV-33 г.**

1. Устанавіць на 1933 г. наступны плян сенакашэньня па прыродных сенажацях і сеяных травах.

| | Прыродныя сенажаці ў тыс. га | Валавы збор у тыс. тон | Сеяных траў у тыс. га | Валавы збор у тыс. тон |
|---|---|---|---|---|
| Лігтрэст — — — — — | 19,735 | 28,0 | 1,221 | 2,686 |
| Насентрэст — — — — — | 4,980 | 7,7 | 1,258 | 2,768 |
| Агародтрэст — — — — — | 2,993 | 4,6 | 1,087 | 2,395 |
| Іншыя саўгасы — — — — | 3,047 | 4,7 | 1,300 | 2,925 |
| Разам па саўгасах НКЗБ — | 30,755 | 45,0 | 3,566 | 10,774 |
| Калгасы — — — — — | 863,645 | 1295,5 | 106,667 | 234,667 |
| МТС: | | | | |
| Льнотрактарац. — — — — | 140,5 | 210,7 | 21,9 | 48,180 |
| Зернотрактарац. — — — — | 93,5 | 140,2 | 11,9 | 25,18 |
| Овашчатрактарац. — — — — | 98,5 | 132,7 | 19,9 | 42,46 |
| Аднаасобн. — — — — — | 863,6 | 1269,4 | 61,767 | 135,556 |
| Разам па НКЗБ— — — | 1758,0 | 2609,9 | 172,3 | 480,997 |

2. Асноўнай задачай сенаўборачнай кампаніі гэтага году дасягненьні найбольшай ураджайнасьці сена шляхам правядзеньня мерапрыемстваў па палепшаньню сенажацяў, а таксама шляхам барацьбы са стратамі пры сенакашэньні (чыстата касьбы і гібелі) поўнага і своечасовага страхаваньня і забясьпечаньня раньніх тэрмінаў сенакашэньня. У залежнасьці з гэтым устанавіць кантрольныя лічбы ўраджайнасьці гэктара па раёнах (глядзі дадатак № 1).

3. Папярэдзіць райза, праўленьні калгасаў, дырэктароў саўгасаў, дырэктароў МТС, што Наркамзем БССР будзе ацэньваць вынікі іх работы па сенаўборцы не па таму, колькі гэктар скошана, а колькі тон сена яны сабралі, застагавалі і даставілі ў саўгас, калгас

4. Абавязаць райза, трактарацэнтры, трэсты сыстэмы НКЗБ у дэкадны тэрмін прадставіць разьвернутыя пляны сенакашэньня ў НКЗБ. Сэктару мэхаанізацыі распрацаваць плян рамонте сенаўборачнага інвэнтару на падставі матар'ялаў з месц, забясьпечыць рамонт і своечасовую дастаўку запасных часьцей так і замацаваць саўгасы калгасы за майстэрнямі.

Рамонт інвэнтару закончыць да 1 чэрвеня.

5. Абавязаць райза неадкладна прыступіць к адводу і разьмеркаваньню дзяржаўных лугавых фондаў з цьвёрдым замацаваньнем сенакосных плошчаў за апрэдзеленнымі гаспадаркамі

і ў першую чаргу за калгасамі, маючымі жывёлагадоўчыя таварныя фэрмы.

6. Абвязаць Ільнотрактарацэнтр, Зернатрактарацэнтр і Овошчабульбяны, Белсадгародтрэст, Насентрэст, райза, МТС:

а) неадкладна прыступіць к распрацоўцы плянаў сенаўборкі і давесьці іх да саўгасаў, МТС, калгасаў і сельсавету не пазьней 1/VI. У плянах павінна быць прадугледжана як пачатак, так канчатковыя тэрміны сенакашэньня з тым, каб сенаўборка ў залежнасьці раёну не перавышала 20-30 дзён і ва ўсякім выпадку павінна быць закончана да начала ўборкі зернавых;

б) райза павінны поўнасьцю забясьпечыць другі ўкос прыродных заліўных сенажацей і шматгадовых сеяных траў;

в) разгарнуць шырокую масава-растлумачальную кампанію па пытаньнях павышэньня ўраджайнасьці і барацьбы са стратамі пры сенакашэньні на аснове сваечасовага сенакашэньня і ўборкі скошанага сена, чыстаты касьбы, грабкі, стогаметаньня.

7. Саўгасы, МТС і калгасы абавязаны па атрыманьні заданьня ў дэкадны тэрмін скласьці рабочыя пляны, абгаварыць іх на вытворчых нарадах.

8. Для апэрацыйнага кіраўніцтва і кантроля за правядзеньнем сенаўборачнай кампаніі арганізаваць штаб па сенаўборцы пад старшынствам т. Рэбінскага і членаў т. т. Лазоўскага, НКЗ, Пушчына, Грабенчыка, Дубоўскага, Самохіна, Андрэенка, Лазоўскага (Лугтрэст) УК (Сэкт. Мэханіз., Мамаева) Гідрамэтінс. Прасіць наступныя арганізацыі вылучыць у склад штабу сваіх прадстаўнікоў: Агітмас ЦК КП(б)Б с/г сэктару ЦК ЛКСМБ, ЦК Саюзу МТС, Саўгасрабочых і рэд. газэты „Зьвязда".

9. Абавязаць райза і трэсты прадстаўляць штабу 5-цідзенныя зводкі па сенаўборцы з указаньнем скошанай плошчы, загатоўленага і ўбранага сена.

Па сканчэньні сенаўборачнай кампаніі прапрацаваць заключную справаздачу з падрабязным аналізам выкананьня пляна як па прыродных сенажацях, так і па сеяных травах з абавязковай характарыстыкай якасьці сабранага сена, тэрмінаў пачатку і заканчэньня сенакашэньня і забясьпечанасьць пагалоўя гэтымі відамі кармоў. Закончаную справаздачу прадтавіць не пазьней 10 лістапада поўнасьцю г. г.

10. Райза, МТС, дырэктарам саўгасаў і праўленьням калгасаў нараду з плянам сенакашэньня і ўборкі забясьпечыць сваечасовае давядзеньне і поўнае выкананьне пляна НКЗБ па насеньніках сеяных траў.

Па збору насеньня дзікарастушчых траў прапанаваць кіраўніцтву жывёлагадоўлі распрацаваць плян па збору насеньня дзікарастушчых траў і да 20 мая давесьці да раёнаў.

11. Райза, МТС, дырэктарам саўгасаў і праўленьням калгасаў забясьпечыць поўнае выкананьне аграмінімуму па сенажаці (зьнішчэньне куп'я ўборку кратавін і камняў, спыненьне пасьбы жывёлы раньней вясной і позьняй восеней на сырых з блізкімі грунтовымі водамі і г. д.

Нам. Наркома Земляробства
БССР **Лазоўскі**

# Усім сакратаром РК КП(б)Б і рэдактаром раённых газэт

Згодна пастановы ЦК КП(б)Б ад 4 мая 1933 г. з 20 мая да 20 чэрвеня 1933 г. праводзіцца па БССР месячнік друку.

Месячнік друку павінен быць праведзен пад знакам шырокага паказу дасягненьняў, якіх дабілася наша партыя ў разгортваньні і ўмацаваньні пралетарскага друку і рабселькораўскага руху і выкананьні задач, што стаяць перад бальшавіцкім друкам і рабселькорамі, як памочнікамі партыі ў барацьбе за генэральную лінію партыі.

Правядзеньне месячніка друку павінна быць адзначана яшчэ большай мабілізацыяй шырокіх працоўных мас на барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, супроць ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць контр-рэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму і шавінізму ўсіх колераў, за пралетарскі інтэрнацыяналізм.

Месячнік друку павінен быць праведзен пад знакам яшчэ большага ўзмацненьня нізавога друку і рабселькораў у барацьбе за поўнае выкананьне прамфінпляну, за пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы і правядзеньне праполачнай і ўборачнай кампаній.

У часе месячніка друку культпроп ЦК п р а п а н у е:

а) па гарадох—правесьці гутаркі ў цэхах і брыгадах аб значэньні дня друку і заслухоўваць справаздачы аб рабоце нізавых газэт з упорам на становішчы і задачах барацьбы нізавога друку і рабкораў за поўнае выкананьне прамфінпляну па ўсіх колькасных і якасных паказальніках, масавы збор прапаноў рабочых для паляпшэньня работы нізавых газэт і шырокае ўцягненьне рабочых ударнікаў у рады рабкораў, рэйды-праверкі рэагаваньня на рабселькораўскія допісы, заслухоўваньне на бюро партыйных ячэек і адкрытых сходах справаздач аб рабоце нізавых газэт і намячэньне канкрэтных мерапрыемстваў па ўзмацненьні парткіраўніцтва нізавой газэтай, абнаўленьне і ўмацаваньне слабых, непрацаздольных рэдкалегій, забесьпячэньне сыстэматычнага выхаду шматтыражак і насьценгазэт і ўзмацненьне іх палітычнай вытрыманасьці і завостранасьці, узмацненьне дапамогі фабрычна-заводзкага друку і рабкораў насьценгазэтам і селькорам падшэфных сельсаветаў і калгасаў:

б) у раёнах—у МТС, саўгасах, сельсаветах і калгасах правесьці аналёгічныя мерапрыемствы, як і ў гарадох—гутаркі, справаздачы рэдкалегій, рэйды-праверкі рэагаваньня на рабселькораўскія допісы, заслухоўваньне дакладаў нізавых газэт на бюро і сходах партячэек і г. д. Усю гэту работу правесьці пад знакам праверкі выкананьня пастановы ЦК КП(б)Б „аб узмацненьні ўдзелу друку БССР у падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы“.

З 25 мая па 10 чэрвеня ва ўсіх раёнах правесьці куставыя спэцыялізаваныя зьлёты рабселькораў, а таксама раённыя нарады рэдактароў нізавых газэт па пытаньнях: „вынікі веснавой сяўбы і задачы нізавога друку і рабселькораў у часе праполачнай і ўборачнай кампаній“.

Работа па месячніку друку павінна быць найшчыльней увязана з разгортваньнем работы друку і рабселькораў па дапамозе партыйным арганізацыям у падрыхтоўцы да чысткі партыі.

На аснове гэтых мерапрыемстваў РК КП(б)Б і раённым газэтам неабходна распрацаваць каляндарны плян правядзеньня месячніка друку па сваім раёне і давесьці яго да нізавых партыйных арганізацый, сельсаветаў, саўгасаў і калгасаў.

Для кіраўніцтва правядзеньнем месячніка друку павінна быць вызначана ў кожным раёне камісія ў складзе: загадчыка культпропу РК КП(б)Б, рэдактара раённай газэты, сакратара РК ЛКСМБ і прадстаўніка РКК.

Матар'ял аб выніках месячніка друку прыслаць у культпроп ЦК не пазьней 30 чэрвеня 1933 г.

**Культпроп ЦК КП(б)Б**

---

# ЗАСЕЯНА ПА БССР:

(У гэктарах і процантах)

| 1930 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|
| 1.186.000 | 491.568 | 1.433.557 |
| 50,9 проц. пляну | 18,5 проц. пляну | 55,1 проц. пляну |

## ЗВОДКА НКЗ БССР АБ ХОДЗЕ СЯЎБЫ ЯРАВЫХ НА 20 МАЯ

| Раёны | Засеяна ў процантах | У тым ліку па сэктарох: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобн. |
|---|---|---|---|---|
| **Паўночная зона** | | | | |
| Асьвейскі | 21,3 | 28,6 | 25,8 | 17,1 |
| Аршанскі | 39,9 | 48,7 | 55,7 | 14,6 |
| Бешанковіцкі | 28,5 | — | 44,8 | 18,9 |
| Віцебскі | 38,0 | 49,1 | 47,8 | 17,4 |
| Вушацкі | 49,5 | — | 69,8 | 24,6 |
| Гарадоцкі | 23,4 | 50,2 | 31,9 | 15,6 |
| Дубровенскі | 36,5 | 34,9 | 46,1 | 24,4 |
| Дрысенскі | 24,5 | 26,6 | 31,9 | 13,0 |
| Лёзьнянскі | 46,3 | — | 54,2 | 18,9 |
| Лепельскі | 43,6 | 28,7 | 52,5 | 22,8 |
| Полацкі | 49,4 | 46,4 | 61,6 | 34,3 |
| Сураскі | 34,5 | — | 40,4 | 20,3 |
| Расонскі | 33,2 | — | 40,1 | 28,8 |
| Сеньненскі | 43,6 | — | 58,2 | 13,2 |
| Сіроцінскі | 19,0 | 5,4 | 24,5 | 13,3 |
| Чашніцкі | 41,1 | 84,6 | 54,1 | 19,7 |
| Усяго па зоне | 36,2 | 50,4 | 48,1 | 20,2 |
| **Цэнтральная зона** | | | | |
| Асіпавіцкі | 69,3 | 64,4 | 79,7 | 63,0 |
| Быхаўскі | 68,8 | 47,6 | 64,3 | 73,0 |
| Барысаўскі | 90,6 | 76,6 | 95,7 | 89,8 |
| Бялыніцкі | 75,3 | — | 74,0 | 76,3 |
| Бягомльскі | 58,5 | 110,5 | 55,1 | 62,7 |
| Бярэзінскі | 62,9 | 57,9 | 66,5 | 61,0 |
| Горацкі | 42,4 | 36,3 | 50,4 | 33,1 |
| Заслаўскі | 57,1 | 50,6 | 65,0 | 42,6 |

| Раёны | Засеяна ў процантах | У тым ліку па сэктарох: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобн. |
|---|---|---|---|---|
| Клімавіцкі | 48,5 | 17,3 | 56,9 | 25,3 |
| Крупскі | 46,2 | 38,6 | 53,6 | 38,1 |
| Капыльскі | 82,2 | 22,7 | 90,6 | 76,8 |
| Касьцюковіцкі | 59,5 | 72,6 | 66,0 | 42,2 |
| Клічаўскі | 47,4 | — | 47,3 | 41,9 |
| Дзяржынскі | 53,2 | 64,2 | 61,1 | 31,5 |
| Крычаўскі | 56,2 | — | 68,6 | 32,8 |
| Лагойскі | 51,2 | — | 67,1 | 37,6 |
| Магілеўскі | 64,9 | 52,6 | 78,1 | 58,4 |
| Мсьціслаўскі | 42,8 | 87,5 | 49,9 | 14,0 |
| Менскі | 76,2 | 90,6 | 82,6 | 60,2 |
| Прапойскі | 46,8 | — | 57,2 | 29,1 |
| Пухавіцкі | 72,6 | 80,3 | 87,7 | 64,3 |
| Смалявіцкі | 77,9 | 38,8 | 90,8 | 74,9 |
| Талачынскі | 38,2 | — | 50,0 | 23,3 |
| Чэрвеньскі | 69,4 | 19,4 | 65,7 | 76,5 |
| Чавускі | 59,0 | — | 68,0 | 53,0 |
| Чэрыкаўскі | 51,1 | — | 63,8 | 30,8 |
| Шклоўскі | 57,9 | — | 65,7 | 85,3 |
| Вузьдзенскі | 69,5 | 37,5 | 84,1 | 54,3 |
| Плешчаніцкі | 56,7 | — | 66,6 | 40,6 |
| Усяго па зоне | 60,1 | 66,2 | 66,0 | 53,5 |
| **Паўднёвая зона** | | | | |
| Брагінскі | 75,8 | — | 90,1 | 60,1 |
| Буда-Кашалеўскі | 75,4 | — | 77,4 | 69,5 |
| Бабруйскі | 76,2 | 71,4 | 84,8 | 73,7 |
| Веткаўскі | 66,5 | 48,5 | 69,1 | 67,9 |
| Глускі | 73,8 | — | 73,2 | 66,0 |

| Раёны | Засеяна ў процантах | У тым ліку па сэктарох: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобн. |
|---|---|---|---|---|
| Гомельскі | 77,3 | — | 88,3 | 55,2 |
| Жыткавіцкі | 99,1 | 52,8 | 97,3 | 100,0 |
| Кармянскі | 69,9 | — | 63,2 | 71,1 |
| Камарынскі | 61,1 | — | 71,5 | 43,3 |
| Жлобінскі | 67,9 | 41,9 | 80,1 | 63,0 |
| Ельскі | 62,0 | — | 73,3 | 46,2 |
| Лоеўскі | 59,0 | 36,5 | 71,5 | 48,8 |
| Любаньскі | 79,3 | 68,1 | 93,4 | 71,6 |
| Лельчыцкі | 73,1 | 83,6 | 87,9 | 67,5 |
| Мазырскі | 64,5 | 31,0 | 86,6 | 54,1 |
| Нараўлянскі | 62,6 | 59,9 | 67,3 | 60,5 |
| Парыцкі | 83,1 | 83,6 | 102,7 | 74,8 |
| Пятрыкоўскі | 70,2 | — | 74,6 | 65,3 |
| Рагачоўскі | 86,5 | — | 86,7 | 82,8 |
| Рэчыцкі | 75,9 | 65,2 | 79,5 | 75,3 |
| Слуцкі | 101,2 | — | 103,8 | 87,9 |
| Старобінскі | 90,4 | 98,1 | 94,7 | 87,1 |
| Стара-Дарожскі | 71,7 | — | 83,3 | 66,1 |
| Тураўскі | 95,3 | 70,8 | 101,4 | 90,4 |
| Цераxаўскі | 66,5 | 122,0 | 71,0 | 61,2 |
| Чачэрскі | 70,9 | 54,5 | 88,0 | 61,2 |
| Чырв.-Слабодзкі | 103,0 | — | 105,6 | 99,8 |
| Чырвонапольскі | 55,6 | 38,9 | 56,6 | 55,2 |
| Уваравіцкі | 72,1 | — | 66,1 | 60,1 |
| Хойніцкі | 75,8 | 43,9 | 73,4 | 79,0 |
| Усяго па зоне | 74,7 | 108,8 | 81,3 | 68,7 |
| Па БССР | 55,1 | — | — | — |

# ЗЬМЕСТ



Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР Ул. Галоўлітбелу В. 1787 Тыраж 1000 Зак. 522

